Цана 400 мк.

Год II. Вільня, 11—16 сакавіка 1923 г. 6 (18).

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай, Наваградзкай і Палескай земляў.

Цана нумару 400 марак.
Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, за I квартал 2000 марак.
За II квартал 6000 марак.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня, Мастовая вул., 1, НародныДом „Одродзэне“. Тэл. 618.
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.



Кіраўнік Рэдакцыі: ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ. Сябры Рэдакцыі: С. ВАЯВОДЗКІ Ф. ГАЛАВАЧ, С. БАЛІН, В. ШАКУН, Б. ІГНАТОВІЧ Я. ДРАЗДОВІЧ, М. ДВАРЭЦКІ, А. ШАПЕЛЬ.

### Павятовы Зьезд

Сяброў і сымпатыкаў П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬНЕ“

**у Браслаўлі**

з прычыны важнае соймавае працы (справа арэндатараў) перанесены з 4-га сакавіка на

**НЯДЗЕЛЮ 11 га САКАВІКА**

Будуць пасолы: **Ант. Галка і Ян Адамовіч.**

Вызваленцы, зьяўляйцеся грамадою.

## ДА ЧЫТАЧОЎ.

Падрастаньне дарагоўлі змушае нас да падвышэньня цаны на газэтку за другі квартал (3 месяцы: красавік, май, чэрвень) да 6000 марак. Грошы гэтыя саўсім не зьяўляюцца вялікімі, ў абліччэньні на золата раўняюцца толькі каля *20 перадваенных капеек.* Усе іншыя панскія газэты падаражэлі значна хутчэй, нават варшаўскае „Wyzwolenie“ каштуе 10,000 мк. за 2-гі квартал. *Нашая газэтка й далей застаецца найтаньнейшаю* і найбольш чытанаю на ўсіх Усходніх Землях Польскае Рэспублікі.

Але, каб мы маглі яе друкаваць без перарвы, дык трэба, каб усе чытачы ўчас паплацілі за падпіску. Дзеля гэтага вось просім усіх, каб якнайхутчэй выслалі ў Рэдакцыю грошы.

Усім хто за другі квартал заплаціць да *1-га красавіка б. г. бясплатна* вышлем добры сьценны *календар.*

Падпіска на газэтку прымаецца толькі квартальна.

# Агульны дагавор.

*(Гл. № 5).*

Тут у Польшчы дзяржава ня толькі не перашкаджае гэтым арганізацыям, не прасьледуе але й памагае. Створана цэлае Міністэрства Працы і Грамадзкае Апекі, якое выслала ўва ўсе ваяводзтвы й паветы сваіх інспэктароў працы, заданьнем якіх, паміж іншым, зьяўляецца падмога і апека над рабочымі. І калі якія-нібудзь ураднікі, ці паліцыянты выступаюць проці рабочых саюзаў, дык ведайце, што яны гэта робяць у супярэчнасьці з правам, а толькі праз сваю дурнату, альбо па злой волі.

Спачатку гэтак арганізоўваліся толькі фабрычныя рабочыя. Яны працуючы ў большых гарадох (ёсьць фабрыкі што налічваюць па некалькі тысячаў і дзесяткаў тысячаў рабочых), у большым зборы, часьцей спатыкаліся паміж сабою і лягчэй маглі паразумявацца. Жывучы ў местах, яны гэтак сама былі больш усьведамлены і лягчэй маглі зразумець карысьць прафэсыянальных саюзаў. А таму што падобна да фабрычнай вядзецца ў нас гаспадарка ў большых дварох таму што там таксама ёсьць абшарнік, маючы варстат і прылады працы (зямля і інвэнтар) ды рабочыя-парабкі, што ня маюць нічога і працуюць на пана, дык гэтак сама з часам пакрысе са ўзростам усьведамленьня вясковага народу пачалі паўставаць і *профэсыянальныя саюзы зямельных рабочых (парабкоў).* У Польшчы найбольшыя ў гэтай справе заслугі паклаў *Ян Квапінскі,* які сам паходзячы з мужыкоў і добра ведаючы ўсю галізну й цяжкія варункі парабкоў, не адпачыў датуль пакуль не стварыў аднае вялізнае, абняўшае ўсю Польшчу, арганізацыі парабкоў, якія супольна боруцца за свае правы і папраўленьне быту. За гэта паны абшарнікі страшэнна ненавідзяць Квапінскага, празываючы яго „каралём парабкоў і пастухоў“ і робяць усё, каб яго прыгнуць, а ён усё ж такі не пакідае свае працы дзеля добра рабочага народу. Аддзел гэтае вялікае рабочае профэсыянальнае арганізацыі істнуе і ў Вільні, месьцячыся пры Цэнтральным Бюры ўсіх рабочых саюзаў *(вуліца Жэлігоўскага,* 4). Прадстаўнікі Аддзелу зрабілі, пасьля доўгіх таргоў (што цягнуліся больш як год), з саюзам земляўласьнікаў (абшарніцкая арганізацыя)

*Агульны дагавор,* які акрэсьлівае варункі *працы, платы і быту* зямельных рабочых у Віленшчыне.

*Што-ж гэта такое агульны дагавор?*

Мы ўжо спаміналі аб тым, што калі да пана прыходзіць рабочы па працу, дык пан, выкарыстоўваючы спэцыяльна благое яго палажэньне, можа запрапанаваць яму нейкія асабліва благія варункі працы; гэтак сама на горшыя варункі працы згодзіцца якая-нібудзь цямнейшая адзінка, ці наагул кожны, хто горш маецца, які прыме ўсякую, хоць бы й найгоршую працу, абы толькі не памерці з галаду. Калі гэткіх няшчасных знойдзецца больш, дык могуць яны зрабіць уплыў на пагаршэньне варункаў працы і ўсіх іншых работнікаў. Дык, каб процістаяць усяму гэтаму ды таксама павялічыць сілу рабочых, профэсыянальныя саюзы пастанавілі рабіць з панамі агульныя дагаворы, гэта знач. супольна для ўсіх сяброў саюзу. Гэтак вось і наша умова, зробленая з аднаго боку Акружным Віленскім Аддзелам Профэсыянальнага Саюзу Зямельных Рабочых Польскае Рэспублікі, а з другога боку Саюзам Земляўласьнікаў Віленшчыны, зьяўляецца умоваю абавязваючай усіх сяброў гэтых арганізацыяў. А таму, што яна ляжыць у інтарэсе парабкоў, дык вось яны, жадаючы, каб і іх датычыў гэты дагавор, павінны як найхутчэй запісацца да сказанага профэсыянальнага

